

# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Зноў падаражэлі паслугі сувязі. Кошт тэлефанічнай хвіліны ў горадзе падскочыў удвая, а за званкі за межы вобласьці прыйдзецца плаціць на 20%-30% больш. Наогул цяжка прасачыць за штодзённым падвышэньнем цэнаў, бо пра адныя паведамляецца, а пра іншыя – не. Прыходзіш у краму і бачыш новы кошт. А можа, і не заўважыш гэтага. Такім чынам тыя, хто ўтойвае зьмены ў горшы бок, клапоцяцца пра нашыя нэрвы. І на тым дзякуй.

Буйнейшае мясцовае прадпрыемства, вытворчае аб'яднанне "Хімвалакно", распачало згортваньне сваёй сацыяльнай інфраструктуры. У прыватнасьці, зачынена 7 дзіцячых садкоў, у якія хадзіла каля 3000 дзяцей. Дырэкцыя тлумачыць свае дзеяньні празаічнай адсутнасьцю сродкаў. Неаплочаныя рахункі па ўтрыманьні садкоў на сёньня складаюць каля 150 мільёнаў рублёў. А ў аб'яднаньня ўжо зараз сур'ёзныя вытворчыя запазычанасьці па самых розных накірунках: ад крэдытнай да зарплатнай. Як па гаворваюць, на чарзе ліквідацыі – сыстэма мэдычнага абслугоўваньня, у якую ўваходзяць больніца і паліклінікі. Можна дадаць, што падобныя крокі па згортваньню сваёй "сацыялкі" раней ужо зрабілі многія прадпрыемствы.

Магілёўскія калгасы, па сьведчаньні аблсельгасхарчу, маюць вялікі недахоп у спэцыялістах. Да 30% гаспадарак ня маюць адпаведна падрыхтаваных спэцыялістаў. Зараз начальства накіроўвае ў гаспадаркі студэнтаў Горацкай сельгасакадэміі. Адвучыліся па 4 курсы – ды хопіць! Некаторыя зь іх займаюць нават пасады галоўных аграномаў. Усяго ж каля 300 маладых людзей замест вучобы вымушаныя "латаць" сабой кадравыя дзіркі на вёсцы.

У абласным шпіталі, паводле праведзеных праверак, тамтэйшыя павархі кралі харч, які павінен быў класьціся ў талеркі хворым. Напрыклад, у паўсотні праверанаых порцыях мяснога рулету значна не ставала мяса адпаведна нормы. За парушэньні пакараныя 5 работніц харчовага блёку. Яны заплоцяць штрафы. Але сумняваюся я, што пасьля гэтага жыцьцё пацыентаў стане сытнейшым. Бо жыцьцё сталоўскіх працаўніц стане горшым, чым да праверкі.

Магілёўскі гарвыканкам нядаўна абмеркаваў пытаньне аб тым, як на мясцовых прадпрыемствах выконваецца дэкрэт Лукашэнкі аб умацаваньні працоўнай дысцыпліны. Чым ужо так не падабаецца начальству тая працоўная дысцыпліна? Адказ зусім у іншым – плошчы на прадпрыемствах мала, людзі не задаволеныя. Каб зьбіць гэты настрой, і вырашана "падкруціць гайкі". Працоўная дысцыпліна заўсёды, з савецкіх часоў, была і застаецца для начальства палачкай-выратавальніцай у змаганьні з тымі, хто выказвае незадавальненьне жыцьцём, працай і тым самым начальствам.

Бабруйскія ўлады паказалі сваім гараджанам, як добра яны пра іх клапоцяцца. Мяркуйце самі. Стаялі ў мясцовым пасёлку Кісялевічы старыя, пасьляваенныя пабудовы, дамы. Як водзіцца, там няма "удобств": ня толькі прыбіральні і ваннай, але ж і звычайных падвалаў, дзе можна захоўваць гародніну і нейкія рэчы. Спэцыяльна для гэтых мэтаў калісьці жыхары самі пабудавалі сабе адпаведны блёк з гаспадарчых памяшканьняў. І вось днямі бабруйскія камунальнікі ўсё зруйнавалі. У людзей, вядома, ніхто ні пра што не пытаўся. Прыгналі тэхніку і разбурылі сьцены. 52 сям'і засталіся без гаспадарчых памяшканьняў.

У Магілёў наведваўся Аляксандар Мядзьведзь, алімпійскі чэмпіён па барацьбе. Сустракаўся з абласным начальствам. Ня ведаю, пра што яны там дамовіліся, але ж усхваляваныя выканкамаўцы рэкамэндавалі гарадзкой уладзе зрабіць Мядзьведзя "ганаровым магілёўцам". Ня ведаю, чым адметным для нашага горада адзначыўся ў мінулым альбо цяпер гэты былы знакаміты савецкі спартсмэн. Ведаю, што ўлады прамаўчалі з нагоды нядаўняй сьмерці мясцовага краязнаўцы Філіповіча, які шмат што зрабіў для нашай гістарычнай адукаванасьці і патрыятычнай памяці. Вось гэта, на маё разуменьне, вартая кандыдатура на ганаровасьць. Ды наогул: ці мала ў біяграфіі гораду выдатных людзей, справаў і падзей! Але жыве нашае кіраўніцтва пачуцьцямі і крытэрамі толькі савецкай часткі гэтай біяграфіі, не зважаючы на тое, колькі стратаў і гора прынес гэты час людзям і гораду (дастаткова паглядзець на "сучасную" архітэктуру, узгадаць колькасьць усяго, што зьнесена і зруйнавана). Аднак для нашай бюракратыі вартаснае тое, што А.Мядзьведзь ёсьць лепшым сябрам прэзыдэнта Алімпійскага камітэта, які ў сваю чаргу ёсьць лепшым сябрам спартсмэнаў. Тут не да гісторыі.

*Да наступнай сустрэчы.*
*Сымон Глазштэйн.*

# Што скажуць ахоўнікі законнасьці

Магілёўскі праваабарончы цэнтар зьвярнуўся да пракуратуры, каб тая апратэставала рашэньне Магілёўскага гарсавета, паводле якога была ўстаноўленая плата за выкарыстаньне суб'ектамі гаспадараньня назвы горада.

Справа ў тым, што 27 жніўня 1999 года Магілёўскі гарадзкі савет дэпутатаў прыняў рашэньне за №6-10, паводле якога за карыстаньне юрыдычнымі асобамі ў сваіх найменьнях назвы "Магілёў" і ўтварэньняў ад яго мелася спаганяцца мыта. Памер плянуемых уліваньняў (на роўным месцы) у гарадзкі бюджэт складаў па 50 "мінімалак" з гарадзкіх аб'яднаньняў і арганізацыяў, і па 300 – з суб'ектаў гаспадараньня. Свае, бюджэтныя структуры вызваляліся ад мыты. Тэрмін разьліку для тых, хто ўжо карыстае назоў горада, быў акрэсьлены 1 чэрвеня 2000 года.

Магілёўскае аддзяленьне Беларускага Хельсінскага Камітэта палічыла рашэньне незаконным і зьвярнулася да Кансультатыўна-назіральнае групы АБСЭ. Намесьнік кіраўніка КМГ АБСЭ спадар Х.П.Клайнэр накіраваў адпаведны ліст у Канстытуцыйны Суд РБ.

5 траўня Старшыня КС РБ Г.Васілевіч накіраваў ліст у гарсавет, у якім, у прыватнасьці, адзначаецца, што рашэньне гарсавета не грунтуецца на дзеючым заканадаўстве Рэспублікі Беларусі й мусіць быць прыведзеным у адпаведнасьць Канстытуцыі.

Таму праваабарончы цэнтар і накіраваў заяву з просьбай апратэставаць незаконнае рашэньне, а таксама абавязаць гарвыканкам вярнуць грошы тым, з каго іх пасьпелі спагнаць. Ня меней важкім лічаць праваабаронцы і патрэбу ў публічным паведамленьні (праз газэты) пра адмену рашэньня і парадак вяртаньня сродкаў.

Застаецца пачакаць, што адкажуць на гэта ахоўнікі законнасьці. Тым больш, што даўнавата ня чутна, каб пракуратура нагадвала пра сябе кантролем за дзейнасьцю мясцовай улады.

*МПЦ – адмыслова для "ТМ"*

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА



СУД НАД ЧЫГІРОМ

# Крок налева, крок направа – ...

*Да трох гадоў зьняволеньня з адтэрміноўкаю на два гады прыгаварыў Менскі гарадзкі суд экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра. Абвінавачваньне яму вынесенае толькі ў адным з шасьці эпізодаў, у астатніх ён апраўданы. Чыгір не задаволены гэтым рашэньнем і зьбіраецца абскарджыць яго ў Вярхоўным судзе, паколькі лічыць сябе цалкам невінаватым.*


Фота IREX

Перад судовым пасяджэньнем на ганку суду адбыліся сутычкі паміж грамадзянамі й супрацоўнікамі ОМОНу, якія не дапускалі людзей у будынак. Былі пацярпелыя, у тым ліку атрымалі цялесныя пашкоджаньні жонка Міхаіла Чыгіра адвакатка Юлія Чыгір і яго ная сястра, пэнсіянэрка Валянціна Малюковіч.

Палкоўнік з гарадзкой управы міліцыі Леанід Русак нават аддаваў загад затрымаць сына Чыгіра, але прысутныя аказалі супраціўленьне. Пасьля гэтага кардон міліцыі быў аслаблены, і ў залю здолелі прайсьці некаторыя журналісты й сваякі падсуднага.

Судзьдзя Аляксандар Васілевіч пачаў зачытваць прысуд, што адбывалася на фоне выкрыкаў: "Свабоду Чыгіру!" Так пад вокнамі будынку суда выказваліся некалькі дзясяткаў чалавек, якіх так і не прапусцілі ў залю. Воклічы "Свабоду Чыгіру!" скончыліся толькі пасьля таго, як своеасаблівы пікет быў разагнаны, а двух яго ных удзельнікаў – Зьміцера Марчука і Яна Грыба – затрымалі й адвезьлі ў пастарунак, пасьля чаго яны былі аштрафаваныя на 5 мільёнаў рублёў кожны.

Зачытваньне прысуду цягнулася крыху больш за палову гадзіны, што можна лічыць рэкордам, маючы на ўвазе 18 тамоў справы і абвінавачваньне з шасьці вялікіх эпізодаў. Пяць зь іх судзьдзя ў сваёй прамове фактычна ўвогуле не закрануў, абвясьціўшы, што ў іх віна Чыгіра не доказаная альбо няма складу злачынства. Усе гэтыя эпізоды тычацца дзейнасьці Міхаіла Чыгіра на пасадзе кіраўніка "Белаграпрамбанку". Ягоную віну суд убачыў толькі ў эпізодзе, які прыпадае на 1995 год, калі Чыгір працаваў прэм'ерам.

Суд палічыў, што экс-прэм'ер перавысіў уладу, прыняўшы рашэньне даць камэрцыйнай фірме "Піаск" адтэрміноўку ў выплаце мытаў, што нанесла вялікую шкоду дзяржаве. За гэта ён і пакараны трыма гадамі турмы, але суд палічыў, што перавыханьне быліога прэм'ера магчымае без ізаляцыі, і даў яму два гады адтэрміноўкі.

Гэта азначае, што калі на працягу двух гадоў Чыгір зробіць **нейкае правапарушэньне** – адразу трапіць за краты. Аднак Міхаіл Чыгір такім рашэньнем быў відавочна незадаволены, ужо ў першым камэнтары ён заявіў, што абавязкова будзе яго абскарджваць і ў рэшце рэшт даб'ецца справядлівасьці: "...Тое, што я даваў адтэрміноўку, ведаў увесь Вярхоўны Савет, бо гэта было ў прысутнасьці й са згоды кіраўніка пляньва-бюджэтнае камісіі Вярхоўнага Савету. Аднак судзьдзя Васілевіч нават ня выклікаў таго ў суд. У выніку яны кажуць, што я ў прысутнасьці старшыні камісіі скраў паўнамоцтвы Вярхоўнага Савету – большага абсурду прыдумаць немагчыма".

М.Чыгір паведаміў журналістам, што паводле ягоных дадзеных, кіраўнік Мытнага камітэту Макаревіч быў пастаўлены перад выбарам – або самому йсьці ў турму за тое, што не спагнаў мыты зь фірмы "Піаск", або даць хлусьлівыя паказаньні супраць Чыгіра. Мытнік выбраў апошняе.

Акрамя трох гадоў зьняволеньня з адтэрміноўкаю, суд пастанавіў спагнаць з Чыгіра 209 мільёнаў рублёў кампэнсацыі за нанесеныя страты, што паводле рынкавага курсу складае больш за 200 тысячаў даляраў. Такіх грошай у Чыгіра, паводле ягоных словаў, няма й ніколі не было. І ўвогуле ён не разумее, што перашкаджае дзяржаве спагнаць гэтыя неатрыманыя мыты з тых, хто карыстаецца ўвезенымі аўтамабілямі: "Гэта ж абсурднае рашэньне, бо гэтыя даляры павінен плаціць той, хто эксплюатуе тэхніку – цягачы і рэфрыжэратары. Хто гэта – трэба спытаць у кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. Яны, па маёй інфармацыі, папалі туды, і мы не адноойчы патрабавалі ад суда, каб ён устанавіў, дзе гэтая тэхніка".

Таксама суд забараніў былому прэм'еру на працягу пяці гадоў займаць кіраўнічыя пасады й пакінуў норму "падпіскі аб нявыезьдзе". Гэтыя пакараньні Чыгір таксама лічыць незаконнымі й зьбіраецца абскарджыць у Вярхоўным судзе.

На судзе прысутнічалі й замежныя амбасадары, якія прыйшлі каб аказаць падтрымку падсуднаму. Аднак задавальненьня ў іх выказаньнях не было. Амбасадар ЗША ў Беларусі Дэніэл Спэкгард, напрыклад, заявіў: "Я думаю, рашэньне суда пацьвярждае тое, што мы даўно ведалі: гэта палітычна матываванае шоў і мэта гэтага шоў – перашкодзіць Чыгіру ўдзельнічаць у палітыцы". Амэрыканскі амбасадар усё ж выказаў спадзяваньні на тое, што Вярхоўны суд, куды будзе апэляваць Міхаіл Чыгір, унікне ў сапраўдны сэнс гэтае справы.

Варта згадаць яшчэ адзін пункт судовага рашэньня. Паводле судзьдзі Васілевіча, суд вынес прыватнае вызначэньне на адрас генэральнага пракурора Беларусі за парушэньне сьледчымі пракуратуры нормаў, што рэглямэнтуюць працэдуру расьсьледваньня. Гэта можна лічыць водгукам на неаднаразовыя заявы Міхаіла Чыгіра пра парушэньне ягоных правоў сьледчымі. Аднак юрыдычных наступстваў такое вызначэньне суду фактычна ня мае.

*Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ, Менск*

ЭКАНАМІЧНЫ АГЛЯД

# ...Тое не "тэндэнцыі", а — курс

У сярэдзіне мінулага тыдня адбылося пашыранае пасяджэньне Савету міністраў з удзелам галоўных кіраўнікоў выканаўчае "вэртыкалі". Падводзіліся вынікі гаспадарчае дзейнасьці за першы квартал.

Чаму так позна – на дварэ ж ужо другая палова траўня?

Магчыма, таму, што хваліцца няма чым. У першай частцы свайго дакладу міністар эканомікі Уладзімер Шымаў назваў лічбы нейкага росту, напрыклад, што валавы ўнутраны прадукт прырос аж на 6 адсоткаў, але ў параўнаньні не са сьнежнем, а зь леташнім першым кварталам. Каб параўнаньне было зроблена з пазалеташнімі дадзенымі, дык гэтак званы "прырост" быў бы яшчэ большым.

Але тыя зьвесткі, якія міністар прывёў у другой палове свайго дакладу, па-сутнасьці зьвялі на нішто пачатковы патас. Сапраўды, у сельскай гаспадарцы назіраўся вялікі спад – амаль на 10 адсоткаў. Амаль да 40 адсоткаў павялічылася колькасьць стратных прадпрыемстваў з аднačасовым рэзкім зьніжэньнем рэнтабэльнасьці прамысловасьці. Узровень інфляцыі ўдвая перавысіў прагнозныя паказчыкі. Расьце аб'ём нерэалізаванае прадукцыі.

Атрымліваецца, што вытворчасьць вядзецца на страту ды на склад. Ды й хто будзе купляць выробленую прадукцыю, калі апошнім часам запазычанасьць у заробках дасягнула ажно 13 млрд. рублёў, у тым ліку 2 млрд. рублёў у прамысловасьці, чаго раней не было.

Заклапочанасьць станам справаў у фінансовай сфэры гучала ў выступленьні міністра фінансаў Мікалая Корбута. Ён праінфармаваў урад, што даходы бюджэту ў першым квартале склалі толькі 17,5 адсоткаў гадавога пляну, ці амаль на 5 адсоткаў меней за мінулагодні паказчык. Недабор грошай у бюджэце дасягнуў 40 млрд. рублёў.

Цікава, як можа такое быць, каб пры росьце вытворчасьці ў казьне не было грошай? Ды й такі паказчык, як скарачэньне аб'ёму перавозак, нельга патлумачыць нічым іншым, як толькі тым, што няма чаго вазіць.

Няма чаканых вынікаў і ў вонкавым гандлі. Як бы ні вырас аб'ём, а адмоўнае сальда гандлёвага балянсу складае вялікую суму – 325,5 млн. даляраў. Гэтаму спрыяе вялікая розьніца валютных курсаў. Невыпадкова кіраўнік ураду Уладзімер Ярмошын зьвярнуў увагу на тое, што трэба зьніжаць валютную курсавую розьніцу, бо яна робіць стратнай працу многіх вытворцаў-экспартэраў.

Адмоўныя тэндэнцыі ў эканоміцы краіны, якія выявіліся ў першай чвэрці году, моцна ўплываюць на стан гаспадаркі й сёньня. Найперш – у сфэры цэнаўтварэньня. Толькі цягам траўня двойчы даражэла паліва. Апошнім разам, з 18 траўня на 10-12 адсоткаў падаражэў бэнзін і дызпаліва. Удвая вырасьлі кошты на праезд у гарадзкім транспарце. На 20 адсоткаў падвышаныя тарыфы на электрасувязь. І гэтыя пералік можна доўжыць.

Куды ж ідзе эканоміка Беларусі? Куды заўгодна, толькі не да выйсьця з крызысу.

*Уладзімер КУЛАЖАНКА, прафэсар*

*(Паводле радыё "Свабода")*





Фота IREX

АД СВАЙГО ІМЯ

# Сымбалі памяці і часу

У траўні 1994 году адбылася падзея, пра якую чамусьці ня згадваюць сёньня. Мажліва, ейная значнасьць на той момант сапраўды не была настолькі важкай каб на яе зважалі ў 2000-м. Віхура першае ў гісторыі Беларусі перадвыбарчае прэзыдэнцкае кампаніі прагнула ахвяраў. Першай ахвярай сталася радыёстанцыя "Беларуская Маладзёжная". Патэнцыйны пераможца (сп.Кебіч) меў своеасаблівае ўяўленьне пра моду, паводле гэтага ўяўленьня вопратка радыё "БМ" не пасавала да "моднага" адзеньня будучае, прэзыдэнскае й што галоўнае — дэмакратычнае Беларусі. Трымаючы напагатове снадзіва шаўца, беларускі "кардэн" чакаў зручнага моманту каб унесьці свае карэктывы ў нямодную адзёжу ад "БМ". Аднаго разу, травеньскім ранкам, на хвалях радыё-станцыі прагучаў жарт, на які Вярхоўны Савет №12 адрэагаваў "па-дзяржаўнаму" – водгукамі абурэньня. Абураліся нават тыя дэпутаты, хто ня чуў гэтага самага жарту ды ня ведаў пра існаваньне самае радыё-станцыі. Беларускі "кардэн" быў сярод тае кагорты дэпутатаў, якія ня чулі жарту, але мелі выразную пазыцыю – "неабходна разабрацца, бо жартаваць напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў непажадана". Радыё-станцыі было забаронена на пэўны час выходзіць у эфір.

Няма анічога больш сталага, чымсьці часовае. Лісты падтрымкі слухачоў, званкі супрацоўнікаў радыё да чынавенства й да кандыдатаў у прэзыдэнты, якія абяцалі ў выпадку сваёй перамогі разабрацца й вырашыць пытаньне станоўча, засталіся для "БМ" толькі разуменьнем уласнае безабароннасьці й асуджанасьці на несупыннае змаганьне за сваё існаваньне.

...Прэзыдэнтам быў абраны руплівец чысьціні нораваў, гэтак мовіць – а-ля інквізытар. Подых "сьвятое інквізыцыі" ахінуў "набажную" Беларусь. Красавік-травень 1995-га – зьбіцьцё дэпутатаў Вярхоўнага Савету, ганебны рэфэрэндум і прызнаньне ягоных вынікаў дэпутацкай большасьцю памянёнага Савету. Народ пажадаў двухмоўя і яго атрымаў. Акурат напярэдадні народ патрабаваў справядлівасьці й навядзеньня парадку. Пад водгукі народнага адабрэньня наўзорна былі пакараныя за наладжаньне страйку мэтрапалітэнаўцы. Праз гэта Беларусь непасрэдна сутыкнулася са зьвявою заходняй – штрэйхбрэхерамі, варта дадаць, што зьява гэтая на Захадзе сярод працоўнага люду непажаданая й ганебная.

Але спынімся на рэфэрэндуме. Наколькі слушным было народнае жаданьне дамагчыся двухмоўя й наколькі яно спраўдзілася – няхай вырашае сам народ. Мінула 5 год. Большасьць людзей, як і тады, бавіць час травеньскаю парою на сваіх выратавальных сотках. Большасьць зь іх наўрацьці ўзгадаюць тыя падзеі.

З вышыні 2000-га усё падаецца простым і зразумелым, мы пасталелі й памаладзелі, нас стала больш. Сёлетнім травеньскім ранкам пад шыльдаю, якая ўсталяваная ў гонар чыннасьці Сьпірыдона Собаля, былі запаленыя сьвечкі. Недвухсэнсовы зьмест тэксту даводзіць – найбольш не тутэйшым! – хто ў хаце гаспадар: "На гэтым мейсцы знаходзілася друкарня, дзе ў 1636-1638 г.г. працаваў беларускі друкар і асьветнік, ураджэнец Магілёву Сьпірыдон Собаль. Тут ім былі выдадзеныя: "Буквар языка славенска", "Псалтыр", "Тэстамант".

Запаленыя сьвечкі сталіся сымбалям памяці пра колішнюю дзяржаўнасьць беларускае мовы й сёньняшняе адраджэньне ад яе. А яшчэ запаленыя сьвечкі сталіся сымбалямі будучыні. Мы вечныя, пакуль памятаем і верым у свае сымбалі.

*Алесь АСІПЦОЎ*

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

**У Беларусі на 30% падаражэў хлеб масавых гатункаў. Рэзкі скачок цэнаў абумоўлены вялікімі затратамі на закупку харчовага збожжа за кошт валютных крэдытаў.**

Пра гэта заявіла начальніца фінансовага ўпраўленьня Камітэта па хлебапрадуктах пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчаваньня Валянціна Кашэўская. Яна адзначыла, што хлеб масавых гатункаў – сацыяльна значная прадукцыя, і таму цэны былі паднятыя толькі на 30%. Паводле чыноўніцы, вытворчасьць хлеба для беларускіх хлебазаводаў заўсёды была стратнай, а паэтапнае павышэньне цэнаў на прадукцыю дагэтуль сытуацыю не зьмяніла.

●

**У выніку майскіх маразоў у Беларусі загінула 14% пасеяных азімых і 5% яровых культураў, многа шматгадовай травы. Трэба перасейваць 566 гектараў агародніны.**

Згодна дадзеных аддзела земляробства і расьлінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчаваньня, да 19 траўня ў краіне пасеяна 79 тысяч гектараў плошчаў, у тым ліку збожжавымі культурамі – 47 тысячаў. Створаныя на месцах і перакінутыя зь іншых рэгіёнаў кормаўборачныя атрады ўбіраюць загінуўшыя пасевы азімых на зялёны корм. Вядзецца падкормка пашкоджаных пасеваў вадкімі азотнымі ўгнаеньнямі.

●

**"Ні эканамічных, ні палітычных падставаў для далучэньня Ўкраіны да саюза Расеі й Беларусі няма", – заявіў 19 траўня ў Кіеве першы намесьнік старшыні Вярхоўнае рады Ўкраіны Віктар Медзьвядзьчук.**

Такім чынам ён пракамэнтаваў сьцьверджаньне старшыні Дзярждумы РФ Г.Селязьнёва аб магчымым далучэньні Ўкраіны да беларуска-расейскага саюза. Пры гэтым Віктар Медзьвядзьчук падкрэсьліў: падставаў для далучэньня Ўкраіны да згаданага саюзу ня будзе ніколі.

●

**Беларускае моладзевае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў" правяло ў Менску культурна-экалягічную акцыю "Час зьбіраць камяні".**

Яна прайшла ў Уруччы ў "Музэі валуноў", які ёсьць унікальным помнікам. Сярод камянёў, каштоўных з геалягічнага пункту гледжаньня, ёсьць і такія, якім пакланяліся людзі яшчэ ў часы паганства. Аднак цяпер музэй знаходзіцца ў вельмі запушчаным стане: паўсюль сьмецьце, а старажытныя валуны запэцканыя рознымі надпісамі і малюнкамі, сярод якіх выдзяляецца ўжо сумна вядомае менчукам спалучэньне літараў – РНЕ.

Пасьля працы па добраўпарадкаваньню помніка запрошаныя ўдзельнікі акцыі былі прыемна зьдзіўленыя: іх чакалі выступленьні беларускіх бардаў ды нацыянальныя гульні.

●

**Швэцкія сацыял-дэмакраты будуць і надалей працягваць барацьбу з рэжымам Лукашэнкі за свабодную і дэмакратычную Беларусь.**

Пра гэта заявіў сакратар кіруючай у Швэцыі Сацыял-дэмакратычнай партыі сп.Урбан Алін. Швэцкія палітыкі знаходзіліся ў Беларусі на запрашэньне Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Падчас свайго візыту яны наведалі ўсе абласныя цэнтры краіны, а таксама гарады Пінск і Салігорск. На сустрэчах з рэгіянальнымі лідэрамі Народнае Грамады вывучаліся пытаньні двухбаковага міжрэгіянальнага супрацоўніцтва і аказаньня дапамогі беларускім дэмакратычным сілам. Ён таксама паведаміў, што ў рамках праграмы па падтрымцы дэмакратыі ў Беларусі ў Інтэрнэце быў адкрыты сайт "Stop-Luka". Актыўна праводзіцца праца па прыцягненьню да барацьбы за дэмакратычную Беларусь іншых дэмакратычных арганізацыяў Швэцыі.

●

**20 траўня ў Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры скончылася сустрэча маладых нямецкіх і беларускіх гісторыкаў – пераможцаў нацыянальных школьных конкурсаў – нямецкага "Пратэст" і беларускіх "Чалавек, час, помнік" і "Паўсядзённае жыцьцё ў Беларусі".**

Паводле вынікаў сустрэчы адбыўся абмен думкамі. Напрыклад, маладыя нямецкія гісторыкі лічаць, што, як гэта ня дзіўна, Беларусь усё яшчэ жыве ў камуністычным мінулым; за такім-сякім зьнешнім дабрабытам адчуваецца прысутнасьць у краіне "шэрай дыктатуры"; у вачах людзей і ў іхняй манэры паводзінаў праяўляецца залежнасьць ад начальства і падначаленасьць жанчын мужчынам; маладыя жанчыны надаюць занадта вялікае значэньне сваёй вопратцы; міліцыянты прыцягваюць увагу відавочнай падазронасьцю; у краіне шмат алькаголікаў.

●

**Зянон Пазьняк заклікаў беларускую апазыцыю, незалежна ад палітычных прыхільнасьцяў, а таксама міжнародную супольнасьць да спыненьня так званых перамоваў з рэжымам.**

Яны ёсьць, па словах старшыні КХП БНФ, нічым іншым, як палітычным маразмам. З. Пазьняк таксама рэзка скрытыкаваў С. Шарэцкага за бязьдзейнасьць легітымнага Вярхоўнага Савету.

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

